Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
В.а. ґалоўнага рэдактара
і заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, г.Мінск,
вул. Змітрака Бядулі, 6-47.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Пятніца, 19 лютага 1999 г. | № 19 (550) | Кошт свабодны

# «Остарбайтэры» атрымаюць кампенсацыю



*Рабская праца ў гады вайны на нямецкім прадпрыемстве*

У Беларусі налічваецца каля 150 тысяч прэтэндэнтаў на атрыманне кампенсацыяў ад нямецкіх фірмаў, у якіх яны па прымусу працавалі ў часы Другой сусветнай вайны. Пра гэта нам паведамілі ў Беларускім фондзе «Узаемаразуменне і прымірэнне».

Нагадаем, што яшчэ падчас барацьбы за пасаду федэральнага канцлера Германіі Герхард Шродэр настойваў на выплаце кампенсацыяў ахвярам паднявольнай працы ў гады нацысцкага панавання. Пазней у Гановеры адбылася сустрэча кіраўнікоў буйных нямецкіх фірмаў, якія выкарыстоўвалі рабскую працу. У іх ліку вядомыя кампаніі БМВ, «Фольксваген», «Тысен-Круп», «Дойчэ Банк» і многія іншыя. Спадар Шродэр паабяцаў «вырашыць праблему без затрымак і прагматычна».

Тым часам вядомы ньюйоркскі адвакат Эдвард Фэган, абаронца ахвяраў Халакоста, пагражае нямецкім кампаніям мільярднымі зыскамі. Для таго каб выплаціць кампенсацыі асобам, якія ў часы нацысцкага праўлення бясплатна працавалі ў Нямеччыне, вырашана стварыць спецыяльны федэральны фонд. Асцерагаючыся судовых санкцыяў, «Фольксваген» і «Сіменс» паспяшаліся абʼявіць пра стварэнне ўласных фондаў па выплатах кампенсацыяў ахвярам нацысцкага рэжыму, якія працавалі на гэтых прадпрыемствах у час вайны. Як нам паведамілі ў фондзе «Узамаразуменне і прымірэнне», некаторыя беларускія газеты паспяшаліся надрукаваць пра гэта абʼявы. Аднак ніякіх выплатаў той жа «Фольксваген» яшчэ не зрабіў. Якія сродкі будзе мець новы фонд, заснаваны фірмамі і нямецкім урадам, пакуль невядома. Натуральна, што не вызначаны памер і механізм выдачы гэтых кампенсацыяў. Адвакаты ахвяраў нацызму думаюць, што ў фондзе будзе 6—8 мільярдаў нямецкіх марак, паводле іншых ацэнак, фонд будзе мець 3 мільярды марак. Ва ўсякім разе, кампенсацыі атрымаюць так званыя «остарбайтэры» з Беларусі, Расіі, Украіны, Польшчы, Чэхіі і Венгрыі. Мяркуецца, што выдаваць грошы ў нямецкай валюце будуць адпаведныя фонды ў гэтых краінах. Як сказаў старшыня Беларускага фонду «Узаемаразуменне і прымірэнне» Валянцін Герасімаў, чакаецца, што пытанне аб выплатах вырашыцца пасля візіту канцлера Герхарда Шродэра ў Маскву. Валянцін Герасімаў лічыць, што кампенсацыі за паднявольную працу павінны атрымаць вязні канцлагераў і нават тыя грамадзяне нашай краіны, якія працавалі не ў Германіі, а на тэрыторыі Беларусі.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Баршчэўскі скардзіцца на Кісяля

**Лідэр БНФ Лявон Баршчэўскі просіць прыцягнуць да адказнасці старшыню Белтэлерадыёкампаніі Рыгора Кісяля за парушэнне Канстытуцыі Беларусі.**

Днямі Баршчэўскі накіраваў генпракурору Алегу Бажэлку скаргу, у якой паведамляе, што яшчэ 11 студзеня ён звяртаўся да старшыні Белтэлерадыёкампаніі з просьбай прадаставіць прамы эфір кіраўніцтву БНФ. «З моманту адпраўкі звароту прайшло 35 дзён, але ніякага адказу ад Р.Кісяля я не атрымаў», — піша Баршчэўскі. На думку франтаўскага лідэра, старшыня Белтэлерадые груба парушыў некалькі артыкулаў Канстытуцыі, закон аб друку і некаторыя іншыя заканадаўчыя акты Беларусі. У сувязі з гэтым Л.Баршчэўскі просіць генеральнага пракурора прыняць у адносінах да Р.Кісяля адпаведныя меры пракурорскага рэагавання.

**Язэп СІНІЦКІ**

## Расійскі генерал камандаваць прыбыў

**У мінулую сераду Аляксандр Лукашэнка прызначыў начальнікам беларускай Ваеннай акадэміі генерал-лейтэнанта ўзброеных сілаў Расіі Міхаіла Лазарава.**

Былога начальніка Ваеннай акадэміі ўзброеных сілаў РБ генерал-маёра Рыгора Флярко Лукашэнка вырашыў звольніць у запас. Да пераезду ў Беларусь М.Лазараў займаў пасаду намесніка начальніка па вучэбнай частцы Маскоўскай акадэміі бранятанкавых войскаў. Учора новы начальнік акадэміі быў прадстаўлены вышэйшым чынам беларускай арміі на калегіі міністэрства абароны. Нагадаем, што пераход Міхаіла Лазарава на працу ў Беларусь зʼяўляецца не першым выпадкам падобнага роду. За час прэзідэнцтва Аляксандра Лукашэнкі нямала расійскіх генералаў занялі адказныя пасады ў беларускіх сілавых структурах.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Запазычанасць застаецца

**Як нам паведамілі ў міністэрстве статыстыкі і аналізу, запазычанасць па зарплаце ў нашай краіне на 30 студзеня склала больш за 1 трыльён 254 мільярды рублёў.**

Зарплату не выплачваюць пераважна ў калгасах і саўгасах (72% ад агульнай колькасці запазычанасці), на прамысловых прадпрыемствах (18,9%), а таксама ў галіне будаўніцтва (8,3%). Налічаная ў снежні зарплата рабочых, служачых і калгаснікаў у сярэднім склала ўсяго 8 мільёнаў рублёў.

**А.Д.**

МАЙ 1999

16

ВОСКРЕСЕНЬЕ

ВЫБОР БЕЛАРУСИ
ЗАВИСИТ ОТ ВАШЕГО ВЫБОРА

# Ганчар папярэдзіў Падгайнага

**Учора Віктар Ганчар перадаў старшыні дзяржкамітэта па друку Міхаілу Падгайнаму сурʼёзны дакумент. Гэта акт аб дзеяннях М.Падгайнага, якія перашкаджаюць рабоце Цэнтральнай выбарчай камісіі.**

На падставе заявы галоўных рэдактараў НАВІНАЎ, «Народнай волі», «Белорусской деловой газеты» і «Свободных новостей» Віктар Ганчар указаў кіраўніку дзяржкамітэта па друку на «устанаўленне незаконных абмежаванняў на публікацыю матэрыялаў Цэнтральнай камісіі», што парушае сёмы артыкул закона аб выбарах прэзідэнта.

Нагадаем, што старшыня дзяржкамітэта па друку Міхаіл Падгайны накіраваў папярэджанні адразу шасці незалежным газетам (НАВІНЫ, «Народная воля», «Белорусская деловая газета», «Пагоня», «Свободные новости», «Имя»). Гэтыя выданні абвінавачваюцца ў тым, што пісалі пра арганізацыю прэзідэнцкіх выбараў, прызначаных Вярхоўным Саветам 13-га склікання на 16 траўня. На думку М.Падгайнага, газеты «заклікаюць да захопу ўлады».

Віцэ-прэмʼер Уладзімір Замяталін сказаў нам, што газеты не мелі права асвятляць дзейнасць «нелегітымных» структураў. На ягоную думку, прэзідэнцкія выбары, абʼяўленыя Вярхоўным Саветам, гэта «правакацыя, на якую ў пэўнай форме рэзка адрэагуюць улады». Па словах віцэ-прэмʼера, арганізатары выбараў «ставяць кераґаз пад грамадскі спакой». Палкоўнік Замяталін, вядомы сваёй барацьбой з прэсай, мяркуе, што і на гэты раз «адна з структураў улады выканае свае абавязкі». Што канкрэтна пагражае незалежным газетам за далейшую публікацыю матэрыялаў па выбарчай кампаніі — віцэ-прэмʼер сказаць адмовіўся.

Дэпутат Вярхоўнага Савета Станіслаў Багданкевіч заявіў, што ўлады «баяцца даць народу права выбару», хоць паўнамоцтвы прэзідэнта Лукашэнкі сёлета заканчваюцца. Па ягоных словах, чыноўнікі апасаюцца згубіць свае крэслы, таму і тыражуюць папярэджанні. Станіслаў Багданкевіч задае рытарычнае пытанне: «Дзіўна, рашэнне аб правядзенні выбараў — гэта «заклік да захопу ўлады», а пазбаўленне народа права выбару — гэта што?».

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

### *Удакладненне*

У мінулым нумары НАВІНАЎ у пераліку газет, якія атрымалі папярэджанне ад дзяржкамдруку за публікацыю матэрыялаў па правядзенні ў нашай краіне чарговых прэзідэнцкіх выбараў, зроблена недакладнасць. Замест «Народнай газеты» патрэбна чытаць «Народная воля». Просім прабачэння ў чытачоў.

***Рэдакцыя***

### НАДВОРʼЕ

Сёння і ў выхадныя дні ў Беларусі чакаецца няўстойлівае надворʼе. Невялікі снег магчымы толькі на ўсходзе Гомельскай, Магілёўскай і Віцебскай абласцей. Вецер слабы. Тэмпература панізіцца ў начны час да -6 — -11, пры праясненнях да -13 — -17 градусаў ніжэй нуля. Звяртаем увагу кіроўцаў аўтатранспарту, што асобныя ўчасткі дарог будуць слізкімі. У суботу днём, пачынаючы з Брэсцкай і Гродзенскай абласцей, зноў стане адчувальным уплыў вельмі актыўнага атлантычнага цыклону. У нядзелю на большай частцы тэрыторыі краіны чакаецца снег. Маразы зноў зменшацца — ноччу да -3 — -8, а ўдзень — ад 0 да -3 градусаў.

*Інжынер-сіноптык Белгідраметцэнтра*
**В.ЧЫЖЫК**

## Сустрэчы ў Еўропе

**Генеральны сакратар Савета Еўропы Даніэль Таршыс сустрэўся ў Страсбургу з дэлегацыяй Хартыі-97.**

У складзе дэлегацыі былі кіраўнік гродзенскага абʼяднання «Ратуша» Аляксандр Малінкевіч, старшыня Саюза палякаў Беларусі Тадэўш Гавін, іншыя грамадскія дзеячы. Яны распавялі спадару Таршысу пра рэальную сітуацыю з правамі чалавека ў Беларусі. Даніэль Таршыс выказаў упэўненасць, што Беларусь пераадолее часовыя цяжкасці і далучыцца да працэсу еўрапейскай інтэграцыі. Генеральны сакратар СЕ адзначыў, што грамадзяне Беларусі зʼяўляюцца паўнапраўнымі грамадзянамі Еўропы. Дырэктар палітычнага дэпартамента СЕ Ханс-Петэр Фурэр даў абед у гонар дэлегацыі Хартыі-97.

Затым беларускія хартысты пабывалі ў Бруселі, дзе сустрэліся з дэпутатамі Еўрапейскага парламента. У міністэрстве замежных справаў Бельгіі дэлегацыя мела двухгадзінную гутарку з дарадцам міністра спадаром Цісам. Бельгійскі бок цікавіўся нядаўнім нападам членаў фашысцкай арганізацыі «Рускае нацыянальнае адзінства» на каардынатара Хартыі-97 Андрэя Саннікава.

**А.Д.**

# Што святкуе міністр абароны?

**На гэтым тыдні міністр абароны Беларусі Аляксандр Чумакоў сабраў журналістаў, каб павіншаваць іх, а праз іх — увесь беларускі народ, з надыходзячым «усенародным святам».**

Усенароднае свята — гэта 23 лютага, Дзень абароны Айчыны. Ён дастаўся нам у спадчыну ад Савецкага Саюза — сваё такое свята ў беларускім календары пакуль не з'явілася. Вось і святкуем па старой памяці савецкае... Дарэчы, а што менавіта святкуем?

23 лютага 1918 года адбылася першая бітва Рабоча-сялянскай Чырвонай арміі з нямецкімі часткамі пад Псковам і Нарвай. Як піша вядомы ваенны гісторык Віктар Сувораў (Уладзімір Разун), кепска арганізаваныя, стомленыя нямецкія атрады разграмілі балтыйскіх матросаў на чале з членам першага Савецкага ўрада Паўлам Дыбенкам, ды так, што часткі «чырвоных» беглі з поля бітвы ажно да Гатчыны — а гэта каля 120 кіламетраў. Праўда, Петраград немцы не занялі, але Паўла Дыбенку пазней судзілі за здачу Нарвы і выключылі з партыі. Вось такое ў нас «усенароднае» беларускае свята.

У якім стане сёння знаходзіцца беларуская армія? Паводле дадзеных на 1 лютага 1999 года, у арміі служыць больш за 73 тысячы чалавек. У тым ліку — 13 тысяч хлопцаў апошняга, зімняга прызыву. Дарэчы, Аляксандр Чумакоў лічыць, што кожны юнак мусіць прайсці вайсковую службу: «Служба ў арміі патрэбная, хлопец можа стаць мужчынам, калі добрасумленна адслужыць паўтара года... Тут можна пасталець, стаць болей фізічна развітым, і па іншых пытаннях...» Дарэчы, адзін савецкі сатырык на гэты конт выказаў сумнеў: як можна стаць мужчынам у арміі, калі ніводнай жанчыны там няма?

Арміі не хапае афіцэраў — укамплектаванасць войскаў афіцэрамі складае толькі 83 працэнты. Кожны другі з іх служыць у войску больш за 10 гадоў. Большасць беларускіх афіцэраў мае праблемы з жыллём — таму моладзь цяпер вельмі неахвотна ідзе ў войска. Штогод звальняецца больш за 1.300 афіцэраў. Варта зазначыць, што і з заробкамі ў арміі не лепшае становішча.

Па словах міністра абароны, сістэма супрацьпаветранай абароны на тэрыторыі Беларусі адпавядае ўсім сучасным патрабаванням. Штодня на вахту па абароне паветраных абшараў Беларусі (разам з суседняй Расіяй) заступаюць каля паўтары тысячы вайскоўцаў. Расія нічога не плаціць Беларусі за абарону свайго заходняга рубяжа ад варожых самалётаў і паветраных шароў, толькі што час ад часу дае беларусам пастраляць на сваіх палігонах. Апроч таго, каля 140 беларускіх вайскоўцаў вучацца ў расійскіх ваенных акадэміях — але гэта ўжо за грошы, якія паступаюць з беларускага бюджэту.

Як паведаміў Аляксандр Чумакоў, сёлета адбудзецца мадэрнізацыя баявой тэхнікі войскаў супрацьпаветранай абароны і ваенна-паветраных сілаў. Перш за ўсё будуць мадэрнізавацца самалёты МіГ-29, Су-27, верталёты, радыёлакацыйныя ўстаноўкі.

Сярод падзеяў гэтага года міністр абароны адзначыў маючыя адбыцца вялікія вучэнні 11-й механізаванай брыгады з баявымі стрэльбамі на Абуз-Лясноўскім палігоне ў Брэсцкай вобласці. У вучэннях будзе задзейнічана вялікая колькасць артылерыі, авіяцыі і сродкаў супрацьпаветранай абароны. Па словах А.Чумакова, такіх вучэнняў не было ўжо некалькі гадоў.

Міністр абароны яшчэ раз нагадаў журналістам, што, ў адпаведнасці з Канстытуцыяй, кіраўніцтва Беларусі не разглядае ніводную дзяржаву як патэнцыйнага праціўніка — дактрына нашых узброеных сілаў чыста абарончая. Яна карэнным чынам адрозніваецца ад стратэгічных задачаў, якія раней мела Беларуская ваенная акруга. Але як загараліся вочы генерал-палкоўніка, калі ён прыгадваў мінулыя часы: «Калі я выконваў абавязкі начальніка штаба Беларускай ваеннай акругі, якія я разам з камандуючым планаваў вялікія пераходы і потым баявыя дзеянні — далёка за Польшчай!». Цяпер, па словах А.Чумакова, гэта ўсё ў мінулым. Сёння нашыя ўзброеныя сілы займаюцца ў асноўным баявой падрыхтоўкай, праводзяць каманднa-штабныя вучэнні. І рыхтуюцца разам з памежнымі і чыгуначнымі войскамі выступіць на абарону межаў Беларусі. Калі спатрэбіцца.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**



# Нават вада падаражэла

**Беларусь мае ўнікальныя запасы экалагічна чыстай пітной вады, якой удосталь хапіла б на ўсіх жыхароў.**

Аднак штодня спажываць гэтае народнае багацце занадта вялікая раскоша для нашых грамадзянаў, якія звычайна могуць яе купіць толькі да святочнага стала. Кошт вады ў празрыстай пластыкавай бутэльцы падскочыў апошнім часам да 70—100 тысячаў рублёў. Па цане гэта амаль што кілаграм цукру, які завозіцца пераважна з-за мяжы. Чаму ж так званы «глыток здароўя», як пішацца на этыкетцы «Дарыды», пакупнікам не па кішэні?

На Мінскім заводзе безалкагольных напояў нам патлумачылі, што даражэе не вада, а яе ўпакоўка. Спецыяльныя формы для пластыкавых бутэлек вырабляе амерыканска-беларускае прадпрыемства «Белпак» у Магілёве, якое карыстаецца расійскай сыравінай. На гэтым прадпрыемстве нас запэўнілі, што кошты на формы не мяняліся месяцаў пяць запар. Тым не менш, пластыкавая бутэлька для папулярнай мінеральнай вады «Мінск-4» каштуе для завода безалкагольных напояў 21 тысячу рублёў. Для ўпакоўкі яшчэ патрэбныя этыкеткі, паперу на якія купляюць у Нямеччыне. У выніку адна этыкетка каштуе пяць з паловай тысяч рублёў. Каб гэтая паперка трымалася на бутэльцы, набываюць спецыяльны нямецкі клей, а крак таксама вырабляюць са спецыяльнай расійскай сыравіны. Вуглякіслы газ, неабходны кансервант для вады, набываецца за валюту ў Польшчы. Словам, маючы практычна бясплатную свідравіну з карыснай вадой, нашая прамысловасць пакуль нyздольная аператыўна наладзіць выпуск якаснай тары і неабходных кампанентаў з айчыннай, больш таннай сыравіны. Можна было б перапрацоўваць выкарыстаныя бутэлькі, якія выкідаюцца на сметнік, але для гэтага трэба закупіць спецыяльную лінію за мяжой.

Валюта, за якую трэба купляць упакоўку і абсталяванне, пастаянна даражэе, і таму на прадпрыемствах прагназуюць далейшае павышэнне коштаў на мінералку. Гэты тавар цяпер выгадней прадаваць за цвёрдую валюту ў замежных краінах. На жаль, у Беларусі не наладжаны выпуск звычайнай пітной вады без кансерванта. Вытворцы апасаюцца, што нашыя грамадзяне не змаглі б з-за цэнаў выкупіць такі прадукт да заканчэння невялікага тэрміну годнасці і прадпрыемствы панеслі б страты. Жыхарам Беларусі даводзіцца піць нячыстую ваду з калодзежаў альбо забруджаную хлоркай і жалезам з водаправодаў.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## У Брэста – юбілей

**Сёлета Брэсту спаўняецца 980 гадоў. У ходзе падрыхтоўкі да свята — Дня горада — будуць прыведзеныя ў парадак вуліцы, двары, скверы і паркі, фасады жылых дамоў, помнікі і могілкі.**

Падчас святкавання Дня горада будуць наладжаныя кірмашы, канцэрты і конкурсы. На цэнтральнай вуліцы Брэста адбудзецца шэсце і парад войскаў. На стадыёне «Дынама» будзе наладжана тэатралізаванае прадстаўленне «З днём нараджэння, Брэст».

Варта адзначыць, што сёлета горад — двойчы юбіляр, бо 60 гадоў таму — у 1939 годзе — была ўтвораная Брэсцкая вобласць, і Брэст стаў яе цэнтрам.

*БелаПАН*

## Пракуратура вывучае плакаты

**Гомельская абласная пракуратура накіравала ў Беларускі Хельсінкскі камітэт афіцыйны запыт з просьбай пацвердзіць паўнамоцтвы гомельскай філіі гэтай праваабарончай арганізацыі і яе старшыні Яўгена Мурашкі.**

У прыватнасці, гомельскіх пракурораў цікавілі пытанні: «Ці даручаў БХК сп.Мурашку ўдзельнічаць у падрыхтоўцы прэзідэнцкіх выбараў, абвешчаных Вярхоўным Саветам?» і «Ці даручалася яму захоўваць 14 тысяч перадвыбарчых плакатаў, канфіскаваных міліцыяй у гомельскай штаб-кватэры Хельсінкскага камітэта 12 лютага?»

Як паведамілі нам у галоўным офісе БХК, у Гомель ужо накіраваны адказ для пракурораў. Кіраўніцтва Хельсінкскага камітэта афіцыйна пацвердзіла паўнамоцтвы Яўгена Мурашкі, але паведаміла пракуратуры, што ніякага распараджэння ўдзельнічаць у падрыхтоўцы прэзідэнцкіх выбараў і захоўваць улёткі-плакаты лідэру гомельскай філіі БХК не давалася. Разам з тым, кіраўніцтва Хельсінкскага камітэта лічыць, што сп.Мурашка мае поўнае права ўдзельнічаць у выбарчай кампаніі, абвешчанай легітымным парламентам, і трымаць у сябе інфармацыйныя плакаты.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

**Паважаныя грамадзяне Рэспублікі Беларусь!**

У перыяд з 16 па 23 лютага праводзіцца перапіс насельніцтва нашай краіны. У сувязі з гэтым Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны звяртаецца да Вас з просьбай паведамляць нам аб усіх выпадках уціску або падману з боку лічыльнікаў па моўных пытаннях. Наш тэлефон у Мінску 284-85-11.

*Сакратарыят Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны.*

# Суддзя супраць адваката

Адваката Веру Страмкоўскую, якая абараняе на працэсе ў Кіраўску былога старшыню АТ «Рассвет» Васіля Старавойтава, могуць пазбавіць адвакацкай ліцэнзіі. Гэта адбудзецца, калі Мінская калегія адвакатаў вынесе В.Страмкоўскай чарговае папярэджанне. Сама адвакатка лічыць, што з ёю хочуць расправіцца выключна па палітычных прычынах.

У нас застацца без ліцэнзіі можа нават самы папулярны адвакат. Прэзідэнцкі дэкрэт № 12, выдадзены ў траўні мінулага года, адкрывае такую магчымасць ужо пасля другога папярэджання, вынесенага адвакату ягонымі калегамі. Гэтак абышліся з Гары Паганяйлам, бадай што самым вядомым беларускім адвакатам. Цяпер, відаць, дайшла чарга да Веры Страмкоўскай. Яна, як і Паганяйла, «засвяцілася», абараняючы беларускіх палітычных вязняў. А гэта ў нашых умовах небяспечна.

*«З самага пачатку працэсу ў Кіраўску я адчувала на сабе страшэнны ціск. Супраць мяне нават хацелі ўзбудзіць крымінальную справу, а цяпер вось вырашылі ўдарыць найбольш балюча — адабраць ліцэнзію», —* распавядае Вера Страмкоўская. Паводле яе словаў, спачатку на яе скардзіліся пракурор Казакевіч і доктар з Бабруйскай турмы Пугач. Але іх скаргі пракуратура Кіраўскага раёна адхіліла, і тады «эстафету» перахапіла суддзя Надзея Чмара, якая фактычна паўтарае большасць ранейшых прэтэнзіяў да адвакаткі.

З чым канкрэтна звярнулася спадарыня Чмара па месцы працы адваката Страмкоўскай? Як лічыць суддзя, Страмкоўская сваёй дзейнасцю фактычна пагаршае здароўе Васіля Старавойтава і ўвогуле падрывае ягоную веру ў суддзяў ды ў абарону. У дадатак яна нібыта падгаварыла аднаго з экспертаў прызнаць Старавойтава хворым. І гэтак далей. Падсумаваўшы, суддзя просіць Мінскую калегію адвакатаў прыслаць у Кіраўск іншага спецыяліста. А са Страмкоўскай, адпаведна, калегіі давядзецца разабрацца.

Мінская гарадская калегія адвакатаў, у якую ўваходзіць Вера Страмкоўская (займацца прыватнай адвакацкай дзейнасцю ў нас забаронена), ужо прызначыла дзень «разборкі». Паводзіны Страмкоўскай у Кіраўскім судзе будуць разглядацца 26 лютага. Калі калегі-адвакаты палічаць, што суддзя Надзея Чмара мае рацыю ў сваіх прэтэнзіях, Страмкоўскай будзе вынесенае папярэджанне. Пасля гэтага пазбаўленне адваката ліцэнзіі, як сведчыць прыклад Гары Паганяйлы, — справа ўсяго некалькіх дзён.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Даўгі

Беларусь вінаватая Расіі за энергарэсурсы амаль 450 мільёнаў долараў. Толькі за мінулы год гэтая запазычанасць павялічылася на 229,1 мільёна долараў. Пра гэта паведаміла крыніца ва ўрадзе рэспублікі.

З агульнай сумы запазычанасці доўг за газ 383,9 мільёна долараў, за электраэнергію — 53,6 мільёна долараў, за нафту і нафтапрадукты — 11,8 мільёна долараў.

*БелаПАН*



# Курдскі пратэст балюча ўдарыў па Еўропе

Курды, што пражываюць у шматлікіх краінах свету, у аўторак правялі акцыі пратэсту супраць арышту ў Кеніі лідэра Курдскай рабочай партыі Абдулы Аджалана. Мітынгі адбыліся больш чым у 20 гарадах свету, іх удзельнікі спрабавалі захопліваць амбасады ды консульствы Кеніі і Грэцыі. Некалькі экзальтаваных курдскіх жанчын нават спрабавалі спаліць сябе.

Лідэр Курдскай рабочай партыі 50-гадовы Абдула Аджалан, вораг нумар адзін турэцкіх уладаў, з 2 лютага хаваўся ў грэцкай амбасадзе ў сталіцы Кеніі Найробі. Увечары ў мінулы панядзелак стала вядома, што грэцкія дыпламаты выдалі яго кенійскім уладам, якія дэпартавалі Аджалана ў Турцыю. Па словах відавочцаў, кенійскія паліцэйскія проста ўвайшлі ў рэзідэнцыю грэцкага амбасадара і павялі Аджалана з сабой. Амбасадар нібыта не меў нічога супраць.

## Перадгісторыя

У краінах Азіі жыве каля 20 мільёнаў курдаў, у тым ліку — каля 12 мільёнаў у Турцыі, у найбяднейшай паўднёва-ўсходняй яе частцы. Курдаў злучае агульная мова, блізкая да персідскай. Большасць іх — мусульмане.

Сеўрская мірная дамова 1920 года, якая вызначала межы Турцыі пасля распаду Атаманскай імперыі, прадугледжвала стварэнне незалежнай курдскай дзяржавы. Тым не менш, гэтая дзяржава так ніколі і не з'явілася на мапе свету. З таго часу ў рэгіёне адбываюцца шматлікія курдскія паўстанні. У сучаснай Турцыі курдаў не прызнаюць як нацыянальную меншасць. Яны не маюць права вучыць дзяцей у школах на сваёй роднай мове, ствараць радыё- і тэлевізійныя станцыі, якія б вялі вяшчанне па-курдску, і г.д.

Абдула Аджалан апошнія 14 гадоў ачольваў барацьбу курдскіх сепаратыстаў за незалежнасць і грамадзянскія правы. Узброеныя баевікі Аджалана вялі баявыя дзеянні супраць турэцкіх войскаў — дзеля стварэння незалежнага Курдыстана. За часы баявых дзеянняў загінула больш за 30 тысяч чалавек. Але курды не спынілі барацьбу.

## Што будзе з Аджаланам?

У Турцыі Аджалана чакае, хутчэй за ўсё, суд і пакаранне смерцю. На працягу некалькіх месяцаў ён прасіў у еўрапейскіх краінаў палітычнага прытулку. Аджалан таксама прапанаваў, каб яго судзіў міжнародны трыбунал — каб толькі не трапіць у рукі турэцкіх уладаў. Турцыя аказала моцны ціск на краіны, дзе Аджалан прасіў прытулку, і ў выніку і Сырыя, і Расія, і Італія выслалі яго з сваёй тэрыторыі. Апошнім месцам, дзе Аджалан схаваўся ад турэцкіх спецслужбаў, стала Кенія. Але, як бачым, ненадоўга.

Невядома, хто менавіта стаў ініцыятарам выдачы Аджалана турэцкім уладам: і грэцкія, і кенійскія ўрадавыя чыноўнікі нервова абвяргалі свой удзел у выдачы лідэра курдаў.



## Курды выйшлі на вуліцы

Ужо на наступны дзень, у аўторак, у Парыжы і Маскве, Лондане і Франкфурце-на-Майне, Мілане, Берне і нават у аўстралійскім Сіднэі курды пачалі захопліваць дыпламатаў, мітынгаваць і праводзіць шэсці, збівалі паліцыянтаў і пагражалі масавымі самаспаленнямі. Замест таго, каб скіраваць свой гнеў на Турцыю, курды паставілі пад удар амбасады Грэцыі, а таксама Кеніі.

### Аўстрыя

У Вене курдскія актывісты штурмавалі грэцкую і кенійскую амбасады. Грэцкі амбасадар і ягоная жонка былі захопленыя ў закладнікі. Кенійскую амбасаду падпалілі.

### Бельгія

У Брусэлі каля 50 дэманстрантаў занялі грэцкую амбасаду, абліліся бензінам і пагражалі спаліць сябе, калі іх будуць спрабаваць адтуль выставіць. Крыху пазней яны ўсё ж пагадзіліся пакінуць будынак.

### Вялікабрытанія

У Лондане курдская жанчына падпаліла сябе і трапіла ў шпіталь. Яшчэ каля сотні курдаў занялі грэцкую амбасаду ў Лондане і заявілі, што таксама збіраюцца скончыць жыццё самаспаленнем.

### Галандыя

У Гаазе каля 150 курдаў прынялі ўдзел у штурме рэзідэнцыі грэцкага амбасадара. Жонка амбасадара, ягоны васьмігадовы сын і служанка-філіпінка былі захопленыя ў якасці закладнікаў. Іх вызвалілі толькі на наступны дзень, у сераду. Паліцыя арыштавала многіх удзельнікаў акцыі. Па словах відавочцаў, у акцыі поруч з мужчынамі прымалі ўдзел жанчыны і дзеці. Будынак грэцкай амбасады не пацярпеў.

### Грэцыя

У Афінах на вуліцах было адносна спакойна: можа, таму, што мясцовая паліцыя зранку захапіла больш за 350 курдаў і змясціла іх у пакінутым вайсковым лагеры. Увечары, пры надзвычайных захадах бяспекі, у Афінах адбылася дэманстрацыя грэкаў і курдаў у падтрымку Аджалана. Ніякіх інцыдэнтаў не было.

### Данія

У Капенгагене курдская жанчына падпаліла сябе ў будынку грэцкай амбасады. 48 курдаў былі арыштаваныя ў цэнтры Капенгагена, калі яны спрабавалі патрапіць у амбасаду.

### Італія

У Мілане каля 30 курдаў уварваліся ў грэцкае консульства і на працягу чатырох гадзінаў утрымлівалі ў якасці закладнікаў грэцкага консула і яшчэ пяць чалавек.

### Францыя

У Страсбургу паліцыя ўжыла слезацечны газ і брала штурмам будынак грэцкага консульства, які быў захоплены курдамі. Некаторыя з 30 дэманстрантаў былі затрыманыя.

У Марсэлі паліцыя выставіла некалькі дзесяткаў курдскіх дэманстрантаў з грэцкага консульства. Курды хацелі ўчыніць там самаспаленне.

У Парыжы французскай паліцыі давялося выстаўляць курдскіх дэманстрантаў з кенійскай амбасады і грэцкага консульства. Шаснаццаць курдаў, у тым ліку дзве жанчыны, больш за тры гадзіны ўтрымлівалі кенійскую амбасаду і пагражалі самаспаленнем, а таксама забойствам закладнікаў. Аднак пазней яны без супраціву здаліся ў рукі паліцыі.

Пад вечар французская паліцыя рапартавала, што вызваліла ад курдаў усе замежныя консульствы і амбасады. Тым не менш, у іншых краінах супрацьстаянне курдаў і паліцыі працягвалася. Дэманстранты адмаўляліся здацца.

### Германія

У Германіі жывуць каля паўмільёна курдаў, у тым ліку 10 тысячаў — у Франкфурце-на-Майне. Таму па ўсёй Германіі — з усходу на захад — пракацілася хваля курдскіх пратэстаў. Ота Шылі, міністр унутраных справаў Германіі, угаворваў дэманстрантаў пакінуць будынкі консульстваў і амбасадаў без супраціву. Аднак марна.

У Боне дэманстранты захапілі грэцкую амбасаду. У кенійскай амбасадзе, таксама захопленай курдамі, утрымліваліся ў якасці закладнікаў два штатныя супрацоўнікі ўстановы.

У Лейпцыгу тры супрацоўнікі турыстычнага агенцтва былі ўзятыя ў закладнікі ў будынку, дзе месціцца грэцкае консульства. Усе тры былі вызваленыя паліцыяй пасля штурму будынка. Ніхто з іх не пацярпеў.

У Штутгарце паліцыя ўзяла штурмам грэцкую амбасаду і арыштавала 27 курдаў, якія захапілі яе. Ніхто не пацярпеў. 17-гадовая курдская дзяўчына абліла сябе бензінам і падпаліла. Яна атрымала сур'ёзныя апёкі.

У Франкфурце каля 50 чалавек зранку захапілі грэцкае консульства. Іншыя курдскія дэманстранты ў знак пратэсту перакульвалі аўтамабілі. Паліцыя была вымушаная ўжыць супраць іх вадамёты і дубінкі. Не менш за 100 курдаў былі арыштаваныя пасля сутычак з паліцыяй. Пад вечар у Франкфурт прыбыў Даніэль Кон-Бэндзі, прадстаўнік партыі «зялёных» у Еўрапейскім парламенце, які пажадаў быць пасрэднікам паміж паліцыяй і дэманстрантамі, што заселі ў грэцкім консульстве. Паліцыя грузавікамі перакрыла вуліцы побач з захопленым будынкам. Тым не менш, яна дазволіла курдскім дэманстрантам заставацца непадалёк ад кон-



сульства і спявалі песні пратэсту.

У Гамбургу паліцыя таксама ўжыла вадамёты супраць курдаў, якія пратэставалі побач з грэцкім і брытанскім консульствамі.

У Берліне каля 150 дэманстрантаў, у тым ліку дзеці, уварваліся ў грэцкае консульства. Яны развесілі ў вокнах партрэты Аджалана і курдскія сцягі і спявалі песні, заклікаючы вызваліць Аджалана.

У Кёльне больш за трыццаць дэманстрантаў былі арыштаваныя пасля таго, як спрабавалі ўварвацца ў грэцкае консульства. У выніку інцыдэнту былі параненыя як з боку дэманстрантаў, так і з боку паліцыі.

У Дзюсельдорфе дэманстранты занялі грэцкае консульства і пабілі там шыбы. Каля 30 чалавек былі арыштаваныя.

У Гановеры каля 15 дэманстрантаў занялі грэцкае консульства і кідалі камяні і іншыя рэчы ў паліцыю.



### Швейцарыя

У Цюрыху дэманстранты накіраваліся да грэцкага консульства. У закладнікі былі ўзятыя гаспадар будынка і адзін паліцыянт, які спрабаваў распачаць з імі перамовы.

У Жэневе каля 20 дэманстрантаў уварваліся ў офіс Генеральнага камісара ААН па справах уцекачоў.

У Берне дэманстранты штурмавалі ўваход у грэцкую амбасаду.

### Швецыя

Стакгольмская паліцыя арыштавала каля 50 пракурдскіх дэманстрантаў пасля іхніх спробаў патрапіць у будынак грэцкай амбасады.

### Турцыя

У Стамбуле каля тысячы курдаў прайшлі маршам па вуліцах, падпальваючы аўтамабілі. У той жа час у некаторых гарадах Турцыі адбыліся дэманстрацыі туркаў, якія віталі арышт Аджалана.

### Расія

У Маскве апоўдні курды пакінулі захопленую грэцкую амбасаду і здаліся ў рукі міліцыі, якая арыштавала 49 чалавек.

### Арменія

У Ерэване курдскія дэманстранты захапілі офіс Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў, але ў хуткім часе пакінулі яго, калі да будынка прыбылі дадатковыя сілы паліцыі.

Такім чынам, паводле дадзеных на вечар аўторка, усяго ў той дзень было арыштавана некалькі соцень курдаў. Амаль усе закладнікі былі вызваленыя.

## Цудоўнае супадзенне?

Здавалася, што практычна ва ўсіх краінах курды пачалі пратэставаць адначасова. Таму адразу паўстае пытанне: ці гэта цудоўнае супадзенне, ці прыклад не меней цудоўнай каардынацыі дзеянняў паміж курдамі?

Самі курды сцвярджаюць, што ўсе гэтыя акцыі праводзіліся стыхійна, так бы мовіць, «па закліку сэрца». «Як толькі мы пачулі ў навінах, што Аджалан арыштаваны, дык адразу пачалі меркаваць, што мы мусім рабіць», — распавёў 28-гадовы Мехмет Атадж, які быў арыштаваны пры штурме грэцкага консульства ў Франкфурце.

Турцыя святкуе і віншуе сама сябе з паспяховым арыштам Аджалана. Тым не менш, улады не дазволілі галандскім адвакатам Аджалана ўехаць на тэрыторыю Турцыі. Кенія вырашыла зачыніць свае 34 амбасады ва ўсіх краінах свету — каб не спакушаць курдаў на новыя дзеянні. Грэцыя прымае ўсе магчымыя захады, каб прадухіліць курдскія тэрарыстычныя акты ў краіне. ЗША вітала арышт Аджалана — у Вашынгтоне яго таксама разглядаюць як тэрарыста.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

***P.S.*** *Рыхтуючы гэты матэрыял, раптам злавіў сябе на думцы: а калі б беларуская міліцыя арыштавала Зянона Пазьняка ці Генадзя Карпенку, хто б выйшаў на вуліцы ў знак пратэсту — я ўжо не кажу пра захоп беларускай амбасады за мяжой ці, не дай Божа, самаспаленне? І ўвогуле ці ёсць у Беларусі чалавек, супраць арышту якога будуць пратэставаць тысячы і дзесяткі тысяч? Ці ёсць у Беларусі хоць адзін сапраўдны лідэр?*

***Эксперты Европейского банка реконструкции и развития (ЕБРР) провели анализ направления проводимых реформ и темпа их осуществления в странах с переходной экономикой. Беларусь в этом табеле о рангах занимает одно из последних мест. Это говорит о том, что все лишения на начальном пути (начиная с 1991г.) были напрасны и нам все придется проходить сначала, включая гиперинфляцию, дикий рост цен, безработицу и т.д.***

# Начнем сначала?

**Путь — один, дороги — разные**

Широкий диапазон различных факторов определил уязвимость экономик стран переходного периода по отношению к возникающим локальным кризисам (например, в России или Юго-Восточной Азии). Кризисные явления высветили способности тех или иных стран в подготовке законодательной основы проводимых реформ, создания адекватных условий для успешного сбора налогов, умения осуществлять грамотное регулирование в банковской сфере и на финансовых рынках, в проведении процедуры банкротства нерентабельных предприятий, а также в проведении перестройки их структуры, формировании социальных основ для нормально функционирующей рыночной экономики. Эти задачи остаются приоритетными для всех стран.

Различия в направлениях проводимых реформ и темпах их осуществления в значительной степени определили уязвимость каждой страны перед лицом глобальных давлений рынка. Для многих стран прогресс в реформах, как отражено в индикаторах реформ1998 г. (*см. таблицу*), был более медленным и непоследовательным, чем в любом другом году, начиная с падения Берлинской стены. Контраст стал еще более очевидным между достижениями первой фазы — либерализации и приватизации — и скромным прогрессом в таких областях, как финансовая реформа, стратегией построения конкуренции и ориентируемой рынком инфраструктуры.

Большее число стран, в ответ на кризис, возвращается к административным методам управления. С трудом завоеванные достижения первой фазы реформ практически аннулированы. К такой небольшой группе стран эксперты ЕБРР отнесли Беларусь, Туркменистан и Узбекистан, чьи правительства на их взгляд свернули с пути реформ и полностью отменили более ранние достижения ради преследования собственной экономической стратегии. Каждый год эти страны все более отстают от других. Страны типа России и Украины заново оживили старые административные средства управления экономикой.

Политика формирования учреждений, необходимых для экономической стабильности и жизнеспособного роста, доказала, что это чрезвычайно сложный и чреватый рисками сегмент реформ. Эти риски проявились весьма драматично с разворачиванием кризиса в России, где критическое финансовое давление в контексте неадекватных структурных реформ и слишком нестабильной политической среды, привели к одной из самых драматических задержек процесса реформ за короткий промежуток времени.

**Россия: страна чудес**

В России быстрая приватизация не была объединена с эффективными реформами, чтобы поддержать конкуренцию и соответствующую финансовую дисциплину. Взрывчатое увеличение числа коммерческих банков и появление сложных финансовых инструментов быстро опередило способность этих учреждений проводить эффективную и благоразумную экономическую политику.

Россия стала своеобразной страной контрастов. Банки осваивали сложные финансовые инструменты, но были фактически неспособны привлечь вклады обычных частных хозяйств. Торговля на рынке ценных бумаг достигла объемов до 100 миллионов долларов в день, но невозможно было реализовать наиболее базисные права акционера. Многочисленные финансово-промышленные группы (ФПГ) были созданы, чтобы поддержать связь между банками и крупными предприятиями, в то время как постоянно увеличивающееся число фирм обратилось к бартеру, чтобы остаться на плаву. Самозваные «финансовые короли» в составе этих ФПГ, накапливали огромные благосостояния при том, что рабочим не выплачивалась зарплата и росла задолженность по уплате всех видов налогов.

**Лишь бы не было войны?**

Однако, российский кризис и аннулирование реформ в других странах с экономикой переходного периода не могут затмить тот прогресс, который был достигнут большинством стран в 1998 г. Часть из них, в которых реформа сходила с рельс под давлениями войны — Армения, Азербайджан, Босния и Герцеговина, Грузия и Таджикистан — начали выполнение долгосрочных планов реформ. Если сравнить достижения в реформах стран, переживших войну и, скажем, Беларусь, то получается, что у нас некая необъявленная война все еще продолжается.

Страны типа Венгрии и Польши начали показывать реальный прогресс в переходе к следующей, более высокой фазе реформирования. Особенно в трудных областях банковской реформы и перестройки структуры предприятий. Действительно, стойкость экономик этих стран, продемонстрированная перед лицом всеобщего кризиса, — сильный аргумент для завершения реформ, что будет способствовать поддержанию экономической стабильности и роста.

Как видно из представленной таблицы, Беларусь в оценках экспертов ЕБРР получила самые низкие баллы. Особо тревожит тот факт, что мы имеем самый низкий процент ВВП (20%,) создаваемого в частном секторе. А это значит, что и в ближайшем будущем экономика страны будет попрежнему неэффективна. Соответственно будет сокращаться как само производство, так и рынок труда.

**Система классификации индикаторов реформ**

**Крупномасштабная приватизация**

1. Незначительное присутствие частного капитала.

2. Всесторонне подготовленная схема, почти готовая для реализации; несколько завершенных продаж.

3. Более чем 25% от активов предприятий в частных руках или в процессе приватизации, но возможно нерешена проблема общего управления.

4. Более чем 50% принадлежащих государству предприятий и активов находятся в частном пользовании и есть значительный прогресс в общем управлении этих предприятий.

4+. Стандарты и эффективность, типичная для продвинутой индустриальный экономики. Более чем 75% от активов предприятий в частном пользовании с эффективным общим управлением.

**Малая приватизация**

1. Немного прогресса.

2. Существенный прогресс в приватизации.

3. Почти всесторонне выполненные программы.

4. Полная приватизация малых предприятий.

4+. Стандарты и эффективность, типичная для продвинутой индустриальной экономики. Частная собственность на землю.

**Реструктуризация**

1. Ограничения бюджета финансового обеспечения (малые кредитные возможности и продолжение политики государственного субсидирования, ослабляющая финансовую дисциплину на уровне предприятия): немного других реформ, чтобы поддержать эффективное управление.

2. Умеренная кредитная политика и стратегия субсидии, но слабое исполнение законодательства о банкротстве и незначительные действия, направленные на повышение конкурентоспособности и усиления общего управления.

3. Значительные действия, направленные на ограничение общих издержек производства и поддерживающие общее эффективное управление (например, через приватизацию, объединенную с необходимым кредитом и политикой субсидии или исполнением законодательства о банкротстве).

4. Существенное усовершенствование общего управления: например, благодаря грамотной системе управления найдены новые внутренние источники финансирования.

4+. Стандарты и эффективность, типичная для продвинутой индустриальной экономики.

**Ценовая либерализация**

1. Цены еще определяются правительством.

2. Цены остаются регулируемыми правительством для нескольких важных категорий товаров, общий объем продаваемых товаров по нерыночным ценам остается существенным.

3. Существенный прогресс в ценовой либерализации: приобретение товаров по нерыночным ценам в значительной степени сокращено.

4. Всесторонняя ценовая либерализация.

4+. Стандарты и эффективность, типичная для продвинутой индустриальной экономики: всесторонняя ценовая либерализация; расширение эффективности производства.

**Внешняя торговля**

1. Существуют ограничения на свободный импорт или экспорт.

2. Некоторая либерализация правил импорта или экспорта; почти полная возможность свободной конвертации валют (возможно, с многократными тарифами обмена).

3. Устранение почти всех административных ограничений по импорту товаров и ограничений на их экспорт; почти полная возможность конвертации валют.

4. Устранение почти всех административных ограничений по импорту товаров (кроме сельского хозяйства) и всех значительных экспортных тарифов. Никакой неоднородности для всех таможенных режимов работы; полная текущая конвертация валют.

4+. Стандарты и нормы эффективности продвинутой индустриальной экономики: удаление большинства тарифных барьеров; членство в ВТО.

**Конкуренция**

1. Отсутствует антимонопольное законодательство и соответствующие учреждения.

2. Антимонопольное законодательство и контролирующий орган устанавливают некоторые ограничения в деятельности монополий.

3. Некоторые принудительные действия, чтобы уменьшить злоупотребления и поддерживать конкурирующую среду, включая расчленение доминирующих конгломератов.

4. Значительные принудительные действия, чтобы уменьшить злоупотребления поддерживать конкурирующую среду.

4+. Стандарты и эффективность, типичная для продвинутой индустриальной экономики, создание эффективной конкурентной среды. Неограниченный доступ к большинству рынков.

**Банковская реформа**

1. Немного прогресса.

2. Значительная либерализация, предоставляющая возможность установления свободных тарифов и распределения кредита. Ограниченное использование кредита или потолков тарифов.

3. Существенный прогресс в улучшении платежеспособности банков и установлении рамок для благоразумного наблюдения и регулирования; полная либерализация тарифов с небольшим льготным доступом к дешевому рефинансированию; значительное предоставление кредитов частным предприятиям и присутствие частных банков.

4 Значительное движение банковских законов и правил к мировым стандартам; хорошо функционирующая банковская конкуренция и эффективный контроль; существенная финансовая стабилизация.

4 +. Стандарты и нормы продвинутой индустриальной экономики, полный набор конкурирующих банковских услуг.

**Фондовый рынок**

1. Немного прогресса.

2. Формирование рынка ценных бумаг, брокерской сети, незначительная торговля правительственными ценными бумагами или слабое регулирование в области выпуска и торговли ценными бумагами.

3. Существенный выпуск ценных бумаг частными предприятиями; учреждение независимых общих регистратур и некоторая защита акционеров меньшей части. Появление небанковских финансовых учреждений (например, инвестиционных фондов, частных страховых и пенсионных фондов).

4. Законы о ценных бумагах и правила приближаются к стандартам *IOSCO*, существенная ликвидность рынка, хорошо функционирующие небанковские финансовые учреждения и эффективное регулирование.

4 +. Стандарты и нормы эффективности продвинутой индустриальной экономики, полное соответствие законов о ценных бумагах и правил с *IOSCO* стандартами, полностью разработанное посредничество небанковских учреждений.

***Прогресс реформ в странах с переходной экономикой.***

| Страна | Население (млн.) | Частный сектор% ВВП | Предприятия: Крупная приватизация | Предприятия: Малая приватизация | Предприятия: Реструктуризация | Торговля: Ценовая либерализация | Торговля: Внешняя торговля | Торговля: Конкуренция | Финансовые учреждения: Банки | Финансовые учреждения: Фондовый рынок |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Албания | 3,2 | 75 | 2 | 4 | 2 | 3 | 4 | 2 | 2 | 2 |
| Армения | 3,7 | 60 | 3 | 3 | 2 | 3 | 4 | 2 | 2 | 2 |
| Азербайджан | 7,6 | 45 | 2 | 3 | 2 | 3 | 3 | 1 | 2 | 2 |
| Беларусь | 10,2 | 20 | 1 | 2 | 1 | 2 | 1 | 2 | 1 | 2 |
| Болгария | 8,3 | 50 | 3 | 3 | 2 | 3 | 4 | 2 | 3 | 2 |
| Хорватия | 4,5 | 55 | 3 | 4+ | 3 | 3 | 4 | 2 | 3 | 2 |
| Чехия | 10,3 | 75 | 4 | 4+ | 3 | 3 | 4+ | 3 | 3 | 3 |
| Эстония | 1,5 | 70 | 4 | 4+ | 3 | 3 | 4 | 3 | 3 | 3 |
| Грузия | 5,4 | 60 | 3 | 4 | 2 | 3 | 4 | 2 | 2 | 1 |
| Венгрия | 10,1 | 80 | 4 | 4+ | 3 | 3 | 4+ | 3 | 4 | 3 |
| Казахстан | 15,7 | 55 | 3 | 4 | 2 | 3 | 4 | 2 | 2 | 2 |
| Кыргызстан | 4,6 | 60 | 3 | 4 | 2 | 3 | 4 | 2 | 3 | 2 |
| Латвия | 2,5 | 60 | 3 | 4 | 3 | 3 | 4 | 3 | 3 | 2 |
| Литва | 3,7 | 70 | 3 | 4 | 3 | 3 | 4 | 2 | 3 | 2 |
| Молдова | 4,3 | 45 | 3 | 3 | 2 | 3 | 4 | 2 | 2 | 2 |
| Польша | 38,7 | 65 | 3 | 4+ | 3 | 3 | 4+ | 3 | 3 | 3 |
| Румыния | 22,5 | 60 | 3 | 3 | 2 | 3 | 4 | 2 | 2 | 2 |
| Россия | 147,2 | 70 | 3 | 4 | 2 | 3 | 2 | 2 | 2 | 2 |
| Словакия | 5,4 | 75 | 4 | 4+ | 3 | 3 | 4+ | 3 | 3 | 2 |
| Словения | 2 | 55 | 3 | 4+ | 3 | 3 | 4+ | 2 | 3 | 3 |
| Таджикистан | 6,1 | 30 | 2 | 2 | 2 | 3 | 3 | 1 | 1 | 1 |
| Туркменистан | 4,7 | 25 | 2 | 2 | 2 | 2 | 1 | 1 | 1 | 1 |
| Украина | 50,9 | 55 | 2 | 3 | 2 | 3 | 3 | 2 | 2 | 2 |
| Узбекистан | 23,6 | 45 | 3 | 3 | 2 | 2 | 2 | 2 | 2 | 2 |

*(Продолжение следует)*

**Александр ГАЛЬКЕВИЧ**

***Источник:*** *Transition report 1998. European Bank for Reconstruction and Development, 1998.*

